# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

5

ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

1932 г.

Двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ


# МАЛЕНЬКІ БАРАБАНШЧЫК

*(Песьня нямецкіх піанэраў)*

**Тэмп марша.** **На два галасы. В. Яфімаў.**




Мы ішлі пад грукаты гарматаў.
Жах сьмерці нам ў вочы глядзеў.
Ішлі ўсё наперад атрады
Спартакаўцаў сьмелых байцоў.

У нас быў хлопчык барабаншчык,
Ён сьпераду ўсіх выступаў.
У сэрцы той хлопчык маленькі
Агонь бальшавіцкі хаваў.

І вось аднойчы на спачынку
Ён песьню вясёлую пеў

Ды, куляй варожай прабіты,
Дакончыць яе не пасьпеў.

З усьмешкай сьмелы барабаншчык
Як зжаты упаў каласок,
І змоўкнуў тады яго голас,
Яго барабан разам змоўк.

Прамчаліся годы паходаў,
А жар барацьбы ўсё гарыць.
Загінуў тады барабаншчык,
А песьня аб ім будзе жыць.


АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25

ПАРЫСКАЯ
КАМУНА



Расправа буржуазіі над камунарамі

Малюнак Сокалава-Скаля



# ПАРЫСКАЯ КАМУНА



**ПАРЫСКАЯ КАМУНА.**
**Камунары змагаюцца з ворагамі рэвалюцы**

Сёлета 18-га сакавіка споўніцца 61 год з таго часу, як у Парыжы (Францыя) пралетарыятам была захоплена ўлада ў свае рукі і створана камуна.

72 дні праіснавала Камуна ў Парыжы. Адважна змагаліся рабочыя за сваю ўладу, ды не маглі ўтрымаць яе ў сваіх руках.

Кіраўнікі камуны разам з пралетарыятам дапусьцілі дзьве вялікія памылкі.

Першая памылка была ў тым, што камунары не захапілі ў свае рукі ўсіх галоўных устаноў, як напрыклад, банку і інш.

Другая памылка — камунары вельмі мякка абыходзіліся з сваімі ворагамі, якіх трэба было зьнішчыць. Ворагі з гэтай прычыны маглі вольна сабрацца ў горад Вэрсаль (недалёка ад Парыжу) і адтуль пачаць паход на Парыж.

57 дзён абараняліся камунары, змагаліся за сваю ўладу. Але іх не падтрымалі рабочыя другіх гарадоў Францыі, не

падтрымаў сусьветны пралетарыят. Камуна 28 мая таго-ж году была пераможана.

На трупах камунараў спраўляла свой дзікі баль буржуазія. Жорстка расправілася яна з першым рабочым урадам. Нават малых дзяцей камунараў не шкадавала азьвярэлая буржуазія.

Брук і тратуары парыскіх вуліц былі афарбаваны ў чырвоны колер. 30 тысяч забітых і звыш 40 тысяч засуджаных на высылку і кінутых у турму—вось чаго каштавала пралетарыяту Парыская Камуна.

Толькі праз 46 год пралетарыят Расіі дабіўся таго, аб чым марылі францускія камунары. Ён, узяўшы ўладу ў свае рукі у 1917 годзе, рашуча расправіўся з сваімі ворагамі. Працоўныя далі адпор сусьветнай буржуазіі, якая старалася затапіць у крыві нашу рэвалюцыю.

Памылкі Парыскае Камуны былі ўлічаны.



**ПАРЫСКАЯ КАМУНА.**

**Палонныя камунары ў склепах Версальскай турмы**

# лінкор
# „ПАРЫСКАЯ КАМУНА“

**Капітан—камсамолец,**
**Качагар—камсамолец**
**І ўсе матросы—камсамольцы.**

*(З камсамольскай чырвонафлёцкай песьні)*

— Я ганаруся сваімі качагарамі,—сказаў камандзір лінкору „Парыская Камуна“, тав. Летавед.

Лінкор „Парыская Камуна“ знаходзіцца на варце морскай мяжы Савецкага Саюзу. Параход павінен быць заўжды гатовы да абароны краіны. Для гэтага трэба, каб заўжды гатовы быў і матрос, і качагар, і капітан. А на параходзе „Парыская Камуна“ шмат камуністаў і камсамольцаў. На „Парыскай Камуне“ ўсе ўдарнікі.

І не здарма тав. Летавед ганарыцца сваімі качагарамі.

Яны ўмеюць працаваць!

Калі трэба было плысьці ў мора і як мага хутчэй, яны працавалі чацьвёра сутак бяз зьмены. Кароткі перапынак на абед, дзьве гадзіны сну і—зноў за працу. А праца качагараў цяжкая.

Але, што значыць цяжкая праца, калі гэта трэба зрабіць, калі побач з табой твой таварыш няспынна кідае ў печ вугаль?

Ці можа быць цяжка, калі хочаш, моцна хочаш зрабіць гэтую работу хутчэй, каб лінкор мог адплысьці.

Вось так ударна працуюць усе матросы, усе качагары і капітан лінкору „Парыская Камуна“.

Ударнікі „Парыскай Камуны“ трымаюць цесную сувязь з сваім шэфам—Ленінскім камсамолам Беларусі. Уся камсамолія Беларусі ганарыцца сваімі падшэфнымі—ударнікамі лінкору і штодня дапамагае ім у працы.

18 сакавіка лінкор сьвяткуе сваю 14 гадавіну. Ужо 14 год, як ён вартуе заваёвы Кастрычніка.

Гэты юбілей будзе сьвятам усіх працоўных. Гэты юбілей сьвяткуе ўся камсамолія Беларусі.

Ударнікі „Парыскай Камуны" рапартуюць:

— Мы заўжды гатовы!

---

**Правядзеце гутарку аб тым, як працуюць ударнікі лінкору „Парыская Камуна". Абгаварэце, які ўдзел прымеце вы ў сьвяткаваньні юбілею „Парыская Камуна".**



*У час адпачынку на лінкоры*

# МЫ ПАВІННЫ



Ст. БУРА-БУРЫМСКІ

СТАНІСЛАЎ БУРА-БУРЫМСКІ вучыцца ў другой групе 25-й школы, у Менску.

Піша ён няграматна і вельмі нехайна: у сшытку многа плямаў, літары няроўныя, шмат мясьцін пазацірана рызінкаю, сшытак брудны.

І настаўніца кажа, што Станіслаў мог-бы пісаць лепш, але ён няўважліва адносіцца да работы.

Жывёла гадоўля
Унас на Беларусі добра
разяяць карчовыя тра-
вы і каранньплоды — канюшы-
на віка дурагеі, бульбо-
ды і іншыя. Большасьцы
нашых саўгасаў і калга-
саў разыводзіць сьвіней і
кароў.

# ДОБРА ВУЧЫЦЦА



ГЕНЯ ВАНЬКОВІЧ

**А вось ГЕНЯ ВАНЬКОВІЧ.**

**Станіслаў і Геня вучацца ў адной групе, а пішуць па-рознаму: адзін лепш, другі горш.**

**У пастанове-ж ЦК партыі аб школе напісана, што ўсе вучні савецкай школы павінны добра вучыцца.**

**Таму Геня ўзяўся дапамагчы Станіславу навучыцца лепш пісаць.**

**Праз месяц мы праверым, як піша Станіслаў і надрукуем пра гэта ў часопісе.**

**Дзеці, дапамагайце сваім слабейшым таварышом вучыцца. Бярэце прыклад з Гені Ванькові ча.**

*Жывёлагадоўля.*
*У нас на Беларусі добра родзяць кармовыя травы і каняплоды — канюшына, віка, буракі, бульба і іншыя. Большасьць нашых саўгасаў і калгасаў разводзяць сьвіней і*



# будзем як ЛЕНІН жыць і змагацца

**З ГЭТАГА НУМАРУ МЫ ПАЧЫНАЕМ ДРУКАВАЦЬ АПАВЯДАНЬНІ АБ ТЫМ, ЯК ЖЫЎ І ЗМАГАЎСЯ ЎЛАДЗІМЕР ІЛЬЛІЧ ЛЕНІН. УЛАДЗІМЕР ІЛЬЛІЧ ПРАЦАВАЎ ВЕЛЬМІ МНОГА. ЁН ПРАЦАВАЎ І Ў ТУРМЕ, І Ў ВЫСЫЛЦЫ, І НАВАТ ТАДЫ, КАЛІ БЫЎ ХВОРЫ. ІЛЬЛІЧ ШМАТ ВУЧЫЎСЯ, МНОГА ЧЫТАЎ. АДЗІН З ЗАВЕТАЎ ІЛЬЛІЧА МОЛАДЗІ — ГЭТА: „ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І ВУЧЫЦЦА“. МЫ ПАВІННЫ ВЕДАЦЬ, ЯК ВУЧЫЎСЯ ЛЕНІН. БУДЗЕМ ЯК ЛЕНІН ЖЫЦЬ І ЗМАГАЦЦА.**

## Валодзя

Валодзя Ульянаў нарадзіўся 22-га красавіка 1870 года. Калі яму было 5 год, маці навучыла яго чытаць, а ў 6 з палавінай ён заявіў, што хоча вучыцца. Ужо ў пачатку сталай вучобы Валодзя зьдзівіў свайго хатняга настаўніка добрай памяцьцю.

— Ён так добра разьбіраецца ва ўсім, што мы вучым, нібы ведаў гэта раней,—казаў настаўнік, — і мне ня трэба паўтараць з ім таго, што ўжо праходзілася.

Калі Валодзю было 9 з палавінаю год, ён паступіў у Сімбірскую гімназію. Тут ён па вучобе быў адным з лепшых. Пераходзіў з клясы ў клясу з першай узнагародай. Вучэньне давалася яму вельмі лёгка. Часта Валодзя прыходзіў на паў-

гадзіны раней у школу, каб да пачатку лекцый пазаймацца з кім-небудзь з непасьпяваючых вучняў. Жаданьне дапамагчы таварышом, клапаціцца аб іх—гэта былі асноўныя рысы характару Ўладзімера Ільліча.

У Валодзі было шмат вольнага часу і яго бацька Ільля Мікалаевіч дзівіўся, калі гэта ён рыхтуецца да заняткаў. Аднаго разу ён кажа Валодзю:

— Ты чаму ня вучышся?

— Я ўсё ведаю назаўтра, тата.

— Пабачым. Пачынаецца строгая праверка. Валодзя здае экзамен перад бацькам з гонарам. Строгае настаўніцкае сэрца (бацька Ўладзімера Ільліча быў настаўнікам) цешыцца з разумных адказаў.

— Калі-ж ты падрыхтаваўся?—пытаецца Ільля Мікалаевіч.

— Мне і ня трэба было рыхтавацца, тата. Настаўнікі ўсё тлумачылі ў клясе, дык і вучыць няма чаго.

# ЗА УДАРНУЮ ВУЧОБУ

Ударна працуюць
Бацькі на заводах,
Каб выканаць пляны
Чацьвертага году.

Спаборніцтва ладзяць
Брыгада з брыгадай,
Каб ня гулялі
Дарэмна варштаты.

І мы абяцаем,
Што ні адстанем
А ні на крок
Ад бацькоў у змаганьні.

Нашы варштаты —
Драўляныя парты.
Кніжкі, алоўкі —
Нашы прылады.

Чакаюць нас, дзеці,
Заводы, машыны,
Чакаюць калгасы
Савецкай краіны.

Нам трэба ударна
Цяпер рыхтавацца
Да гэтай адказнай
Вялікае працы.

Вучыцца, вучыцца,
Змагацца за веды!—
Такія пакінуў
Ільліч нам заветы.

**А. ЯКІМОВІЧ.**

# ШТО ВЫ БУДЗЕЦЕ РАБІЦЬ ВЯСНОЮ?

Усе рыхтуюцца да вясны. У калгасах канчаюць папраўляць плугі, бароны, збрую. Рамантуюць сеялкі, трактары. Неўзабаве і сяўба пачнецца.

Дзеці павінны таксама рыхтавацца да вясны.

Што мы будзем рабіць вясною?

Работы ў нас многа.

Пры вашай школе ёсьць гарод. Мабыць, і сад. Што вы будзеце рабіць на сваім гародзе? Што садзіць ці сеяць? Калі і як? Якую работу вам правесьці па догляду за садам?

Запрасеце да сябе ў школу агранома. Ен вам аб усім раскажа і дапаможа скласьці плян работы. Папрасеце агранома, каб ён вам расказаў, што будзе рабіць ваш калгас. Што трэба рабіць, каб падняць ураджай? Чым вы можаце дапамагчы калгасу ў час сяўбы?

Намалюйце калектыўна плякат да сяўбы. Пералічэце ў ім галоўныя спосабы павялічэньня ўраджаю. Даведайцеся, хто ў калгасе працуе па-ўдарнаму, а хто гультаіць. Зрабеце дзьве дошкі: чорную і чырвоную. На іх запішэце прозьвішчы лепшых і горшых калгасьнікаў. Плякат і дошкі павесьце ў клюбе альбо ў сваёй школе.

Разам з настаўнікам праводзьце наглядањьні за прыродай. Падрыхтуйце шпакоўні для птушак і павесьце іх у садох. Птушкі — нашыя прыяцелі. Яны зьнішчаюць шкоднікаў палёў, садоў, гародаў.

Многа работы знойдзецца дзецям вясною. Мы ўсе павінны зараз ударна рыхтавацца да вясны.

Т. КЛЯШТОРНЫ

# ПАЭМА пра шкодніка Янку І ПРА ТОЕ, як хлопчык МАЦЕЙ выратаваў ТРЫЕР

Палі абуджаны ад сна.
Звон ручаёчкаў сэрца
цешыць.
І усьміхаецца вясна
Навокал сонечнай
усьмешкай.

І нават хмурыя бары
Журыцца быццам перасталі...
Сягоньня ў школе гаварыў
Пра пасяўную наш
настаўнік.

І усьміхалася яму
Праз вокны далеч
небакраем...
Цяпер мы ведаем—чаму
Ў калгасах болей
ураджаю.

А пасьля лекцыі у нас
Было цікавага багата:
Прывезьлі трыер у калгас,
Яшчэ прыслалі новы
трактар.



*Прывезьлі трыер у калгас,*
*Яшчэ прыслалі новы трактар...*



*Мы зараз будзем працаваць.*

Прышлі калгасцы як адзін,
Распачалася тут нарада...
І вышаў Сьцёпка-брыгадзір
З такой прамовай да
брыгады:

— Мы зараз будзем
працаваць,
Рассудзіць трыер хай
павольна,
Якому зерню красаваць
Не забаронена у полі.

Па сьвежа ўзоранай зямлі
Мы з тым, ачышчаным
насеньнем,
Брыгадай выйдзем у палі,
Палі калгасныя засеяць.

Калі палуднаваць усе
Пайшлі дарослыя калгасцы—
Падбег да трыеру Мацей
Ды Кобец, Чыж і Янка Ласка.

Тут толькі Ласку аднаго
Не паважаў Мацей
і Кобец,—
Шляхетны гонар у яго,
Як і ў багатых
засьцянкоўцаў.

А вось сягоньня
наўздагон
За ім хлапцы бягуць
ватагай,
Бо штось такое мае ён,
Што выклікае і павагу.
— Ну, дай хоць бліжай
паглядзець!
— Не фанабэрся ты занадта!
— А дзе ты „сьцібрыў"
гэту медзь?
— Мо' гэта капсуль ад
гарматы?

— Яго мне тата падарыў
Ды сьцерагчыся гаварыў.
Калі пад соннага ваўка
Падкінуць гэта, дык паверце,
Што ад драпежніка таго
Зубоў і то не застанецца.

— Гэй, сьцеражэцеся,
стральба!
(Ён кінуў трубачку пустую,
А ў гэты час у барабан
Паклаў блішчастую другую).

І, як нічога ня было,
Пабеглі хлопцы за сяло.
Ад сонца мутна зіхацеў

Раскіслы сьнег пад колер
сажы...
Учынкі Янкавы ўсе
Адзін Мацей толькі
заўважыў.

Ён ад хлапцоў рашыў
адстаць
І так пачаў вось разважаць.
— Не пабягу за Астравы —
Мяне лёс трыера кранае...
Хоць не заб'е—ён няжывы,
А пашчапаць, дык пашчапае.

— Не зарунее слаўна рунь,
Як не ачысьцяць зерні тыя...
Мацей назад пабег угрунь,
Каб ад бяды пазбавіць
трыер.

Бяжыць, а трыер на таку
І поўна зерня ў латаку.

Усё... і Сьцёпка ужо там
Разьмеркаваў работу здэцца...
Вось ён пасы агледзеў сам
І сам за ручку ён бярэцца.

Нібы звар'ёваны які,
Да іх Мацей прыбег
аднекуль:
— Чакайце крышачку,
дзядзькі,
У барабане небясьпека!

— Якая? Што?—спытаўся
брыгадзір,—
Кажы пра ўсё, кажы да
толку!
Усе на момант, як адзін,
Загаманілі тут навокал.

*Канец глядзі на ст. 18.*



*Учынкі Янкавы ўсе адзін Мацей толькі заўважыў...*

— Дурэць, хлапчына,
захацеў,—
Зьвярнуўся хтосьці да
Сьцяпана.
Але ўсхвалёваны Мацей
Дастаў той капсуль
з барабану.

— Ну, вось, браткі,
глядзеце, вось!—
Сказаў Сьцяпан, зірнуўшы
строга,—
Тут не хлапецкая
дуросьць—
Работа Ласкі тут старога.

Ня дрэмле вораг. Увесь час
Ён шкодзіць нам у нашай
працы.
Таму павінен кожны з нас
Сачыць упарта і змагацца!





# ХАМУТ

АПАВЯДАНЬНЕ А. ШЫШОВА

Пракоп Трус, Косьцікаў бацька, увайшоў у калгас адным з першых. Але ад гэтага яму слава невялікая. Кепска ён абыходзіцца з калектыўнай гаспадаркай. Не шануе яе так, як раней сваю гаспадарку. Любіць ён заўсёды і ўсіх дакараць за ўсялякія дробязі. Хоць гэта і нядрэнна гаварыць пра недахопы, але ня з добрымі намерамі гаварыў пра іх Пракоп.

Так усё цэлы дзень і бурчыць Пракоп.

— Тата, пакінь лаяцца,—просіць Косьцік.

— А табе што?

— Брыдка так, вось што.

Пракоп поўзаў на каленках каля свайго плуга, які замацаваны за ім на ўсю веснавую работу, перакідаў з месца на месца парваны хамут і зьвязваў яго вяроўкаю. Ён быў злосны,—гэта відаць было з яго работы.

— Патрабуюць работы, а рабіць няма чым,—бурчаў Пракоп.

— Што ты там лаешся,—сьмяяліся калгасьнікі з Пракопа.

— Ды як-жа ня лаяцца? Паглядзеце вось якія гужы, а хамут толькі варонам на гняздо...

— Дзядзька Пракоп, пойдзем паабедаем, дык злосьць і адыйдзе,—паклікалі хлопцы старога, жартуючы з яго неспакойнага характару.

* * *

Час ішоў. Адна работа зьмянялася другою. Між сяўбою і касавіцаю калгасьнікі капалі сілосныя ямы, рамантавалі малатарні, аглядалі і папраўлялі сьвірны, гумны.

Брыгада дзяцей праводзіла падлік зьдзельнай работы, кожнаму калгасьніку запісвала ў кніжку працадні.

Косьціку патрэбна была чыстая папера. Ён палез на вышкі, дзе былі схаваны яго сшыткі. Зірнуў пад страху і сам сабе ня верыць: у доўгай скрынцы, як у вузкай труне, ляжаў хамут, закручаны ў старыя лахманы,

Косьцік зразумеў, што гэта значыць. Дастаў хамут, пакруціў у руках; ад чорнай абшыўкі і ад гужоў пахла дзёгцем. Лямец крыху папсавала моль. Мясцамі моль акрылілася.

Косьцік вылаяў бацьку, адкінуў хамут у бок і пачаў капацца глыбей. Выкінуў новы кавалак вяроўкі, потым знайшоў лейцы і вобраць.

Косьцік прышоў дахаты. Паглядзеў сур'ёзна на бацьку і сказаў:

— Тата, чаму хамут не абагуліў?

Пракоп адразу нібы напалохаўся: ён не спадзяваўся гэтага.

— Які хамут?—сказаў ён.

— Новы хамут, што на вышках ляжыць. Стары парваны занёс, а новы схаваў. Вяроўкі там, лейцы.

— Лазіш ты вельмі ўсюды, якая табе справа?

— Ты лаешся, што ў калгасе няма чым араць, хамуты парваныя, а сам хаваеш. Новы хамут моль точыць.



*Пракоп скора падбег да плякату, сарваў яго...*

— З гораду павінны даць, яны падгаварылі мяне ў калгас, ды вы, жэўжыкі!

— А хамут каму хаваеш?

— Гм... а калі калгас распадзецца...

— Ах, вось ты куды гнеш?

Пракоп адразу адчуў, што прагаварыўся.

— Ты думаеш, я адзін так зрабіў?—апраўдваўся ён.

— Хамут трэба абагуліць,—цьвёрда сказаў Косьцік.—Калі табе брыдка, давай я занясу.

Косьцік зноў палез на вышкі, дзе ляжаў хамут.

— Ня руш, кажу, ня руш, без цябе я ведаю...

Пракоп схапіў Косьціка за ногі так моцна, нібы абцугамі, і сьцягнуў з драбіны.

Косьцік пераканаўся, што так угаварваць бацьку цяжка. Ён ацярушыў пыл з сьвіткі і вышаў.

Бацька выбег за ім.

— Ты ў мяне глядзі, не разбрашы, есьці ня дам!

Косьцік ішоў у праўленьне, каб заявіць, але дарогаю перадумаў.

* * *

Увечары на зборы атраду Косьцік апавядаў пра знаходку.

— Я думаю, што і ў другіх ёсьць. Трэба дабіцца, каб усе абагулілі збрую і прылады.

Гаварылі доўга. Меркавалі, як лепш зрабіць.

На другі дзень піанэры ізноў сабраліся.

— Я знайшла дугу і падсядзёлак,—сказала Манька Платонава.

— Дзе?

— У мякіне.

І многа чаго знайшлі піанэры.

Сымон Рыжык, павадыр, склаў сьпіс. Знайшлося пяць чалавек, якія схавалі ад калгасу збрую і рабочыя прылады. Піанэры абмеркавалі гэта і перадалі праўленьню калгасу. А разам з гэтым намалявалі плякаты і позна ўвечары вывесілі на варотах.

— Прынясуць,—сказаў Янка Мілякоў, а не, дык праўленьне паможа.

* * *

Раніцай калгасьнікі сьпяшаліся ў праўленьне атрымаць нарады на работу, хто не атрымаў з вечара.

Пракоп вышаў на вуліцу і на варотах свае хаты ўбачыў: „Брыдка! павінен здаць новы хамут і вобраць у калгас, якія схаваў на вышках пад страхою“.



*Пракоп узяў хамут пад паху і вышаў...*

Хмурыя бровы Пракопа зашавяліліся. Ён скора падбег да пляката, сарваў яго, скамячыў і кінуў у траву.

— Эх, прыдумаў жэўжык! Добра, што ніхто ня бачыў, а то ад сораму не прайсьці было-б. Вось яны, дзеці якія! Дам лупцоўкі! Ён паклаў рукі ў кішэнь і пусьціўся ў дарогу. Але дайшоў толькі да суседняга двара.

„Брыдка! павінен здаць у калгас дугу і падсядзёлак, якія схаваў у мякіне“.

На карыкатурным малюнку Пракоп пазнаў свайго суседа. Ён згорбіўся, а на шыі ў яго вісіць дуга, у руцэ падсядзёлак. Тут Пракоп усьміхнуўся. Прайшоў яшчэ колькі шагоў. Што за дзіва, і тут:

„Брыдка! павінен здаць у калгас колы, якія закапаў у хляве“.

Калгасьнікі, якія схавалі сваю маемасьць, ішлі на работу невясёлымі. Саромяліся адзін другога.

* * *

Увечары, калі Пракоп вярнуўся з работы, ён, цяжка дыхаючы, залез на вышкі, дастаў хамут і вобраць, ачысьціў ад пылу і сказаў сыну:

— Занясі.

— Сам занясеш,—адказаў Косьцік.

— Брыдка мне!

— Годзе прытварацца. Прасі, каб з калгасу ня выключылі.

Пракоп узяў хамут пад паху і вышаў

Так зрабілі і іншыя калгасьнікі.





# ЮНЫЯ БЯЗбожнікі



**П'еса А. ЦІТАВАЙ**

**Малюнкі ДАВІДОВІЧА**

## УДЗЕЛЬНІКІ:

1. **Маці Хадора**—жанчына 40 г.
2. **Дзядзька Яўтух**—мужчына 32 год, прыдуркаваты, набожны.
3. **Іван**—сын Хадоры—хлопчык 14 год, піанэр-вучань.
4. **Аленка**, дачка—дзяўчынка 9 год.
5. **Сьцёпка**, сын—хлопчык 8 год.
6. **Кастусь**—піанэр, таварыш Івана
7. **Дора**—піанэрка.
8. **Бабка Маланьня**—старая жанчына, шаптуха.
9. **Поп.**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Сялянская хата. На ложку хворая дачка. Маці моліцца. Сьцёпка сядзіць за сталом з кніжкай.

**Маці** (*то шэпча, то гаворыць моцна*). Гаспадзі, памілуй... (*шэпча*). Госпаду памолімся... (*шэпча*). Воча наш іжы сі на небясі... (*шэпча*). Да суправіцца малітва мая, я кракадзіла прад табою...

Сьцёпа. Мамка, кракадзіла ў школе на малюнку ёсьць, і ў кніжцы ёсьць. Мне Іван паказаў. У яе рот во які (*паказвае рукамі і ротам*),

а зубы вострыя, вострыя. Яна-б цябе, мамка, зьела-б, як убачыла, сапраўды-б зьела і мяне-б зьела—рот во які вялікі, а зубы...

Маці. Маўчы, паганец, я табе пакажу як над сьвятымі словамі зьдзекавацца! Ня пусьціла ў школу і ня пушчу цяпер нават і з Іванам туды бегаць калі. Во імя айца і сына і сьвятога духа, амінь...

Дачка. Мамка, піць!

Маці (*да Сьцёпкі*). Падай во лепш вады сястры. (*Сьцёпка падае. Маці бярэ ў яго кварту і падыходзіць да ложку*). На пі, дачушка. Ці лепш табе крыху стала, ці не? Бацюшка зноў абяцаў зайсьці сёньня і бабка Маланьня прыдзе, зноў вадзіцы пашэпча. Гэта ты спужалася, во гарачка і прыкінулася.

Дачка (*стогне*). Ня лепш мне, мама, а яшчэ горш робіцца. (*Сьцёпка зноў садзіцца за стол, разглядае малюнкі. Уваходзіць прыдуркаваты дзядзька*).



Дзядзька. Ну і служэньне сёньня было, во дык служэньне... Асабліва мой голас сёньня прыгожасьці ў царкве дадаваў. Хе, хе, хе! Як крыкну, крыкну! раждяство твае хрысце божа наш... (*пяе моцна*). Як крыкну, крыкну — аж сьцены дрыжалі. Хе, хе, хе.

Дачка. Мама, няхай дзядзька ня крычыць, галава баліць.

Маці. Ня крычы, Яўтух, хворая ў хаце.

Сьцёпка. Мамка, во хадзі зірні кракадзілу, калі хочаш. Я адшукаў у кніжцы. Толькі тут яна шэрая, а ў школе на малюнку зялёная, вялікая.

Маці. Ты зноў за сваё? Во я табе як пакажу!.. Хочаш, каб кніжку ў печку кінула? Га?

Дачка. Мама, ня крычы, галава баліць, ой, ой, усё баліць... (*Дзядзька распранаецца, садзіцца на лаўку, бярэ люстэрка, раскрывае рот, быццам пяе, падкручвае вусы*).

**Дзядзька.** Пакажы, што там у тваёй кніжцы (*глядзіць*). Э, гэта глупства, нехта напэцкаў, што ўздумаў. А я во сёньня ў царкве сьпяваў. Як крыкну—усе людзі на мяне глядзелі (*устае, выпростваецца, падкручвае вусы, усьміхаецца*). Я як крыкну (*бярэ люстэрку, глядзіць у яе і сьпявае*) — раждяство твае хрысьце божа наш...

**Дачка.** Мама, дай піць! Мамачка галава баліць. Ох, ох...

**Маці** (*дае піць*). Ня крычы ты, Яўтух. Хворая-ж во ў хаце. Ты во толькі пяеш ды ў люстэрка глядзішся. Працаваць во ня хочаш. Дроў во і то нашчапаць не хацеў учора. Добра, што Іван з Сьцяпанам нарэзаў і нашчапалі.

**Сьцёпка.** Мы і сёньня нарэжам і нашчапаем.

**Маці.** Сёньня сьвята, сёньня няможна працаваць.

**Сьцёпка.** Чаму няможна? А холадна-ж у хаце будзе. Іван казаў, што нарэжам і пашчапаем. Ён ужо там крыху нашчапаў сёньня.

**Дзядзька.** Пусьціла дзяцей у распусту. Сьвята і то ня пільнуюцца. Дзе б табе ў царкву пайсьці ды паслухаць хоць-бы, як дзядзька там сьпявае, дык ён дровы калоць. Цьху, ды і ўсё. І цяпера во бачыў, як дамоў ішоў, дык Іван з паганцамі шыбаваў у клюб. Цьху, ды і ўсё. Гэтыя свае паганыя хусткі пазавязвалі на шыі, быццам языкі павысалуплівалі. Цьху, ды і ўсё! І дапусьціцца да гэтага! Во я дык як запяю ў царкве...

**Сьцёпка.** Толькі больш не сьпявай тут, бо Аленка хворая. (*Чуваць шагі. Уваходзіць Іван. У яго чырвоны гальштук на шыі. Распранаецца. Дзядзька скоса паглядзеў на яго*).

**Сьцёпка.** Во добра, што ты прышоў. А мамка кажа, што сёньня дровы рэзаць нельга, бо сьвята (*падбягае да Івана*).

**Аленка.** Мамка, нешта дрэнна мне. Дай вады (*маці дае*).

**Іван.** Мамка павязем мы Аленку ў бальніцу. Я з Кастусём гаварыў праз гэта. Ён каня добрага возьме ў калгасе. За хвілінку завязем. А то, бывае, заразьлівая хвароба ў Аленкі. І мне, можа, у школу хадзіць нельга, а мы ня ведаем, ды і зашкодзіць ад яе ўсім можа.

**Маці.** Заразьлівая, заразьлівая! Ня дасьць бог, дык і не зашкодзіць. Няхай вось зараз бацюшка прыдзе ды бабка Маланьня. Ужо бацюшка ведае і нічога не казаў, што заразьлівая. А бабка кажа, што яна спужалася. Во прыйдуць, можа рады дадуць і палепшае Аленка.

**Іван.** Эх, ты, мама, мама! Задурманілі тваю галаву, ахуталі яе цемрай і цяжка табе цяпер апамятацца, агледзецца.

**Дзядзька.** Ці бачыш ты яго—матку вучыць зьбіраецца. Чырвоны язык на шыю надзеў і думае, што разумней за дарослых стаў. Цьху,

ды ўсё! Ня прышоў, нябось, у царкву паслухаць як дзядзька там сьпявае. Дровы коле сёньня. Цьху, ды і ўсё!

**Маці** (*прыслухваючыся*). Ніяк, нехта ідзе. (*Падыходзіць да дзьвярэй. Уваходзіць поп і бабка Маланьня*).

**Маці**. Бацюшка, айцец духоўны (*цалуе руку*), зьмілуйцеся, ратуйце дачку. Стогне во, і што рабіць? (*Да бабкі*). Заходзь, заходзь, бабуля. Ужо во як рада, што прышлі, а то галаву згубіла зусім, ня ведаю, што і рабіць.

**Поп** (*падыходзіць да хворай*). Нічога, Хадора, усё ад бога.

**Іван**. Мама, навошта ты проста з холаду пушчаеш да хворай! А яшчэ дарослыя людзі. Аленка і так хворая, дык вы хочаце, каб ёй яшчэ горш стала. Лепей-бы доктара прывезьлі, ці яе ў бальніцу завезьлі-б. (*Яўтух пры ўваходзе папа ўстаў з лаўкі, падышоў да яго, пацалаваў руку і стаў каля яго*).

**Поп** (*глядзіць то на Хадору, то на Івана, то на Яўтуха*). Гэта яшчэ адкуль чырвонагальштук зьявіўся? Бачыш яго! Указваць дарослым пачаў: з холаду да хворай. Ды ня з холаду, а з марозу да хворай з пасьвянцонай вадзіцай ды сьвятым крыжам. У бальніцу-б завезьлі!? Бачыш, разумны які. Усё, брат, ад бога. (*Да Хадоры*). Панавучалі іх у школе. Разумных парабілі. Ці не кавалка сала ды курыцу якую шкадуеш за тое, што айцец духоўны малітву над хворай пачытае?

**Іван** (*сам да сябе*). Колькі іх перадавалі кавалкаў гэтых, а што за карысьць?

**Поп** (*паказвае на Сьцёпку*). Добра, што яшчэ гэтага ня пусьціла ў школу, ды дачку.

**Маці**. Ледзь ня пусьціла Аленку ў школу ды во захварэла.

**Поп**. Гэта паказаньне звышы: ня пушчай, значыцца, у школу дзяцей, не пагань іх нячыстым духам. Во глядзі, што з гэтага зрабілі. Ні табе розуму, ні табе паважаньня. Нехрысьця зрабілі. Дзе-б падыйсьці пад благаславеньне ды руку пацалаваць айцу духоўнаму, дык ён указваць пачаў. (*Іван у час прамовы папа піша каля стала. Сьцёпка глядзіць на яго. Дзядзька і бабка стаяць каля папа і, згаджаючыся з ім, ківаюць галовамі*).

**Дачка**. Мамка, галава ў мяне баліць, а вы ўсё крычыце. Ох, ох!

**Бабка**. Дай пляшачку, Хадора, я хуценька рады дам. (*Хадора дае пляшку, бабка бярэ, адыходзіцца, крыху шэпча, плюе, хукае. Дае пляшку Хадоры*). На, Хадорачка, давай ёй тры разы на дні па тры глыткі. І ведаеш яшчэ што трэба было-б зрабіць? Памыць Аленку

трэба было-б, ды попелу на сьпіне скачаць. Ведалі-б тады, ад чаго спужаньне. Ну, няхай ужо, я ўвечары забягу. Зробім.

Іван (*махаючы рукой*). Яшчэ прыдумалі новыя лекі. Не, ня будзе па-вашаму. (*Поп кладзе руку на галаву Аленкі і моліцца то шопатам, то выкрыкваючы словы: господзі памілуй, госпаду памолімся. Яўтух падцягвае гэтыя словы грубым голасам. Аленка стогне. Бабка і маці хрысьцяцца і кленчаць*).

Аленка. Мамка, няхай сьціхнуць ужо. Галава горш баліць і горла сьціскае. Дай піць! (*Іван падае вады*).

Іван. І калі гэта апамятаюцца людзі? Мама, не шкадуеш ты Аленкі. Апамятайся. (*Поп дае цалаваць крыж хворай, потым усім. Іван у гэты час адзяецца, дае шапку і сьвітку Сьцёпку. І калі поп хоча даць пацалаваць крыж Сьцёпку, Іван цягне Сьцёпку да дзьвярэй і выходзіць з ім*).

Поп. Бачыш, Хадора, што з сына твайго зрабілі ў школе? Крыж хрыстоў яго пужае, і няхай-бы сам не цалаваў, а то і Сьцёпку пацягнуў за сабой. Ня пушчай ты гэтых у школу.

Маці. Ды я і ня пушчу ні Аленкі, ні Сьцёпкі. Няхай што хочуць робяць, але ня пушчу.



(*Канец будзе*).

**У № 6 будзе надрукаваны канец гэтай п'есы і яшчэ многа антырэлігійнага матар'ялу. Скарыстайце гэтую п'еску і № 6 часопісі для падрыхтоўкі супроць папоўскага „вялікадня", за бальшавіцкую вясну.**

# ПАДУМАЙ

## РЭБУС




Як разгадваць рэбусы?

Для гэтага трэба ведаць некаторыя ўмоўныя абазначэньні. Напрыклад, у гэтым рэбусе спачатку намаляваны ў „С“ і літара „Е“. Калі так чытаць— выходзіць „УСЕ“.

Далей „С“ і пілы. Перад малюнкам пілы стаіць коска, якая азначае, што тут трэба адкінуць адну першую літару ад слова „пілы“. А цяпер добра падумайце і вы лёгка разгадаеце ўвесь рэбус самі.

## ШТО ТАКОЕ БУЛЬБА?

Акцябронак Зося загадала цікавую загадку сваіму таварышу Алесю —

**Што такое бульба?**

Алесь не хацеў абразіць Зосю, але ня стрымаўся, каб не расьмяяцца.

— Вось табе і загадала.

Але раптам сьціх. Крыху падумаў.

— Ты пытаешся, што такое бульба? Дык нясі сюды бульбу і тарку. Цяпер глядзі.

Алесь пацёр бульбу, падліў у яе вады, тады пацёртую бульбу працадзіў праз анучку, зьліў усё гэта ў слоік, паставіў яго і кажа:

— Прыходзь, Зося, заўтра зранку, тады я табе і адкажу— **Што такое бульба?**

Падумайце, дзеці, і вы над гэтай загадкай.

Свае разгадкі прышлеце ў рэдакцыю.


ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.




Папраўка: У аддзеле „Як зрабіць сявалку“ першы радок трэба чытаць: „Частку „Н“ сагнеце ў 6 мясцох...

582

# ЯК ЗРАБІЦЬ ТРАКТАР

Наклейце асобныя часткі на тоўстую паперу. Цяпер пачынайце работу. Вазьмеце частку „А“ (радыятар) і сагнеце ў мясцох, што адзначаны кропкамі. Пасьля вазьмеце пярэднюю і заднюю частку радыятара „Б“ і, сагнуўшы па кропках, склейце з часткаю „А“. Склейвайце так, каб лічбы 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9 папалі адна на другую. Затым прыклейце радыятар на аснову „В“, адзначаную лічбай 1.

Далей бярэце частку „Г“, сагнеце яе ў 2-х мясцох па кропках і прыклейце накрыўкі на колы 14 і 15. Месца для сядзеньня „Д“ сагнеце ў 6 мясцох па кропках і прыклейце да сярэдзіны частку „Г“. Прыклейвайце так, каб лічбы 10, 11, 12 і 13 папалі адна на другую. Усю склееную частку пастаўце на другім канцы асновы „В“, на месцы, адзначаным літарай „Г“. Колы наклейце на фанэру ці на тоўсты картон і надзеньце іх на драўляныя кіёчкі (восі). Надзявайце так, каб колы круціліся.

Цяпер зрабеце руль. Бярэце палоску „Е“, прыклейце да яе кола „Е“ і ўмацуйце на сярэдзіне асновы „В“, на мясцох, што адзначаны літарай „Е“. Калі зробіце ўсё гэта правільна, трактар будзе гатовы.

## ЯК ЗРАБІЦЬ СЯВАЛКУ

Частку „М“ сагнеце ў 6 мясцох па лініях, што адзначаны кропкамі. Сагнуўшы, склейце так, каб папалі часткі 1 на 1. Да лічбаў 2 і 3 прыклейце яе бакавыя часткі „К“.

Частку „М“ сагнеце па лініі 4 і падклейце да нізу скрынкі „Н“, што адзначана лічбай 4, а з бакоў пастаўце колы.

М

К

Н

КОЛЫ СЯВАЛКІ

# ФРЫЦ І ШУЦМАН




I. Фрыцу далі важнае заданьне: расклеіць па горадзе партыйную адозву.

II. Раптам каля яго зьявіўся шуцман (паліцэйскі). Фрыц скокнуў і ўцёк.

III. Даганяе шуцман Фрыца. А Фрыц адвярнуўся, заляпіў шуцману твар і вочы клеем ды—ходу.

IV. Шуцман нічога ня бачыць, а бяжыць, каб Фрыца злавіць. Раптам зачапіўся за тратуар. Упаў. А Фрыц скарыстаў гэта. Хутка накрыў яго вядром з клеем. Дагані цяпер сьмелага Фрыца.

---

Дзеці, мы раім вам цікавую работу: нарысаваць малюнкі да гэтага апавяданьня. Асобныя часткі малюнкаў тут ёсьць. Вам трэба перамаляваць усе часткі фігур на тоўстую паперу. Часткі рук і ног (А, Б, В, Г) перамалюйце па два разы кожную.

Цяпер пракалі дзірачкі ў тых мясьцінах, дзе яны адзначаны на малюнках. Тонкім дроцікам змацуй асобныя часткі рук, ног, галавы, потым прымацуй іх да тулава. Прымацуй вольна, каб яны маглі лёгка варушыцца. Калі фігуры будуць гатовы, палажы іх на ліст чыстай паперы і паспрабуй разьмясьціць так, каб атрымаліся малюнкі да гэтага апавяданьня. Фігуркі можна абвесьці карандашом, а потым афарбаваць пэўным колерам.

---

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 510. 4080 экз. Галоўлітбел № 298.

Цана асобн. № — 18 кап.



**З гэтым нумарам рассылаецца дармовы дадатак—ЯК ЗРАБІЦЬ ТРАКТАР**

**МАЛЮНКІ НАШЫХ ДЗЯТКОРАЎ**


















